Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# НАПЕРАД!

Беларуская радыкальная тыднёвая часопісь.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі Вільня, Віленская 8, кв. 3.

Прыймо інтэрэсантаў ад 9 да 2 гадз. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты: за 1 год—7 зл., за паўгоду—3 зл. 50 гр., за 3 мес.—2 зл., за 1 мес.—75 гр.

Год 2. Вільня, 29 студзеня 1930 г. №. 4

## Паміж Сцыллай і Харыбдай.

Не дарма сьвядомая нацыянальна беларуская радыкальная інтэлігенцыя лічыць змаганьне за нашы правы на культурна-нацыянальным фроньце за найважнейшую ў сягоньняшніх варунках жыцьця справу: іменна на гэтым фроньце беларусам прыходзіцца сягоньня адбіваць найвялікшы нацiск усіх „рознакалёрных" і „рознаязычных" ворагаў нашага нацыянальнага адраджэньня і вызваленьня.

Як ведама, самая балючая справа ў гэтай галіне—гэта школьная справа. Ня гледзячы на дзесяткі тысячаў пададзеных за апошнія гады дэклярацыяў на беларускія ўрадавыя школы, іх — апрача некалькіх дзесяткоў „утраквістычных" ці „беларускіх" з перавагай польскае мовы — не адчыняюць. Не адчыняюць нібы-то затым, што... няма „выкваліфікаваных" беларускіх вучыцялёў! А адначасна тыя-ж школьныя ўлады не даюць і дазволу на „кваліфікаваньне" народных вучыцялёў: ані прыватнае беларускае вучыцельскае сэмінарыі адчыніць беларусам не даюць, ані—самі ўрадавых сэмінарыяў з беларускай выкладовай мовай не адчыняюць. I справа школьная так і стаіць усьцяж на адным мейсцы...

Гэта—ў адносінах да народных, гэтак-званых „powszechnych" школ. Але ня лепшае палажэньне і нашых школаў сярэдняга тыпу — прыватных беларускіх гімназіяў, лічба якіх ў Заходняй Беларусі за апошнія гады — дзеля „незалежных" прычынаў—паменшылася... да трох.

Грамадзянству ведама, з якім трудом удалося абараніць нашы гімназіі ад „узрыву" іх знутра камуністычнай партыяй. Але, абмінуўшы неяк (хоць і з цяжкімі стратамі) гэту небясьпечную „Сцыллу", нашыя гімназіі апынуліся перад яшчэ вялікшай небясьпекай для свайго істнаваньня, якой зьяўляецца ўрадавая „Харыбда": аказваецца, што на ўсе тры беларускія гімназіі, якія маем пад Польшчай, толькі два спасярод чынных беларускіх вучыцялёў маюць прызнаныя польскімі ўладамі „кваліфікацыі" і могуць без перашкодаў выкладаць у беларускіх гімназіях, пад той час, як усе іншыя ўсьцяж знаходзяцца пад пагрозай „зрэдукаваньня", як—„нявыкваліфікаваныя". Навет тыя з іх, якія маюць за сабою па дзесяць гадоў бясспыннае вучыцельскае працы ў беларускіх гімназіях, могуць аказацца — на гэтай чыста фармальнай падставе—ў любы мамэнт пазбаўленымі права навучаньня....

А тымчасам набліжаецца крытычны дзень 1 студня 1931 году; калі ўсе наагул „невыкваліфікаваныя" вучыцялі губляюць права на далейшую профэсіяльную вучыцельскую працу. Дзе-ж і як маглі нашы беларускія вучыцялі вымаганыя ў Польшчы „кваліфікацыі" набыць?—Ды нідзе: бо істнаваўшыя ў мінулыя гады спэцыяльныя дапаўняючыя ўрадавыя курсы (ведама-ж: толькі польскія!) былі для нашых вучыцялёў недаступныя, як празначаныя выключна для вучыцялёў урадавых гімназіяў,—а ніякіх падобных беларускіх курсаў ніколі ня было... I вось, з канцом бягучага году на гэтай падставе могуць быць выкінены за борт усе—апрача двух!—беларускія вучыцялі, а ў выніку гэтага і ўсім нашым гімназіям пагражае аўтоматычная ліквідацыя.

Праўда, з гэтага палажэньня ёсьць вельмі просты выхад, толькі-ж, ведама, пры істнаваньні добрае волі ў школьных уладаў. Апошнія маюць права прызнаць нашых вучыцялёў „выкваліфікаванымі" і без усялякіх дапаўняючых курсаў і экзаменаў, паскольку тыя паказалі на дзеле сваю здольнасьць і адпаведнасьць да вучыцельскае працы. Здаецца, што, калі ўжо дзьве гімназіі (віленская і навагрудзкая)—пасьля многалетніх візытацыяў" і адбытых ужо двойчы пры ўрадавых камісіях матуральных экзаменаў—атрымалі даўно належныя ім правы ўрадавых школаў, дык ці-ж гэта ня ёсьць бясспрэчны доказ, што яны стаяць на вымаганай уладамі вышыні з пэдагогічнага пункту гледжаньня?—А калі так, дык ці-ж тыя, хто паставіў нашы гімназіі на гэту вышыню,—іх пэдагогічны склад,—не даказалі на практыцы, што і самі яны зусім адпавядаюць усім тым вымогам, якія стаўляюцца школьнымі ўладамі „выкваліфікаваным" вучыцялём?

Бязумоўна—так! I затым вучыцялі ўсіх трох нашых гімназіяў, здаўна ў іх працуючыя, на зусім законнай падставе мусяць атрымаць „кваліфікацыі"—шляхам простага прызнаньня іх школьнымі ўладамі. Беларускае грамадзянства мае права гэтага трэбаваць, — трэбаваць зьліквідаваньня ўрэшце сталае пагрозы „рэдукцыі" тых пэдагогаў, якія і сваей многалетняй беззаганнай працай, і сваей навуковай падгатоўкай зусім адпавядаюць займаным становішчам.

Толькі тады нашы гімназіі, шчасьліва абмінуўшы пагражаючыя ім з двух бакоў „Сцыллу" і „Харыбду", здолеюць выплыць урэшце на вольную плынь—да лепшае будучыні і поўнага свайго расьцьвету.

## З цыклю: Новая Беларусь.

Хмары чорныя зьвісьлі над намі—
Яшчэ ўчора гудзеў Веснаход....
Гэй, сябры! Сьмела ў бой з пярунамі!
Ўспыхне заўтра іншы усход!

Гэты цень, што спусьціўся ад хмараў,
Згіне з першай касуляй сьвятла,
I асьвецяцца нашыя твары
Сонцазьзяньнем чароўнага дня.

1929.

* * *

Беларусь ты мая рассьпяваная!
(Нібы ў песьнях ты толькі і ёсьць...)
Я прыходжу к табе, о, каханая,
Сын вясны, нібы новы госьць....

Нашы песьні—ня песьні: смутніцы—
Сьмела выкіну я цераз плот;
Клічам тым, як вясной навальніцы,
Прывітаю я бедны народ....

Беларусь! Прыбірайся у краскі,
Ў песьні бурнай і гучнай вясны!
Мы збудуем цябе, як у казцы,
Сьветлай, яснай, як нашыя сны!.....

Х. І.

## Споўніце свой абавязак!

(Голас чытача).

Прачытаўшы ў апошнім нумары „Наперад" заметку аб цяжкім палажэньні газэты і павольным прысыланьнем падпіскі, я мімаволі спыніўся над гэтай справай і захацеў падзяліцца з чытачамі нашае часопісі некаторымі думкамі, каторыя заўсёды зьяўляліся ў маей галаве, пасьля сьцьверджаньня падобных сумных фактаў.

Аб значэньні роднага друкаванага слова хіба ня прыдзецца шмат гаварыць, бо кожны хоць крыху асьвечаны чалавек разумее, чым зьяўляецца свая газэта для народу. Вельмі прыгожа акрэсьліла гэта рэдакцыя „Нашай Нівы" ў словах: „гэта—люстра душы, думак і патрэб Беларусі". У цяперашні час агульнага аслабленьня тэмпу адраджэнскае працы, істнаваньне рэгулярна выходзячай газэты ёсьць упрост пякучай неабходнасьцю. Цяпер мы перажываем крызіс, стаім на пераломе, і трэба далажыць усіх стараньняў, каб гэты крызіс мінуў шчасьліва, не пакінуўшы па сабе якіх небудзь благіх пасьледзтваў. У такіх абставінах ня толькі важна, каб істнавала свая прэса, але і патрэбна, каб яна стаяла на груньце вышыні сваіх заданьняў, бо: „Ніколі заданьне прэсы ня ёсьць так адказным, так важным і такім важкім, як у пераломных хвілінах жыцьця народу ці дзяржавы. Разумеюць гэта (часам на сваей скуры пераконваюцца) работнікі пяра і інстынктыўна адчуваюць масы. Бо ніколі газэты ня бываюць так разхопліваныя, не становяцца такім артыкулам штодзеннай неабходнасьці культурнага чалавека, як у тыя хвіліны. Аснаўная місыя (пасланніцтва) прэсы: інформацыя і дадзенае да яе асьвятленьне, перапушчанае шчыра праз прызму ідэйнага сьветапагляду,—гэтая місыя стаецца тады неразлучнаю часткаю быцьця адналькава тых адзінак, якія яе выконваюць, як і тых масаў, для каторых выконваецца". („Одна з аномалій"—„Діло" ч. 252, 13/XI-29).

Праўдзівасьць вышэйпрыведзеных слоў аднаго з супрацоўнікаў украінскае газэты — вачавідная. Але мала зробіцца пры найлепшым жаданьні і ахвоце да працы без падтрыманьня матэр'яльнага, якое зьяўляецца падставай усякага падобнага пачынаньня. Дзеля гэтага неабходным зьяўляецца супрацоўніцтва матэр'яльнае, каторае можа і павінен выконваць кожны, хто ліча сябе сьведамым беларусам. У нас да гэтага часу справа гэтая не знаходзіць належнага зразуменьня, бо ня збудзілася яшчэ самадзейнасьць шырокіх слаёў грамадзянства. Збуджаны з нацыянальнага сну, шмат яшчэ хто чакае вызваленьня як манны нябеснай—з чужых рук, не разумеючы, што толькі сам можа яго здабыць у супольнай працы з роднымі братамі. Такое неразуменьне справы спараджае неаблічальныя шкоды для ўсяго беларускага працоўнага народу, і змагацца з гэтым неразуменьнем з памыснымі вынікамі можна зноў-ткі пры помачы сваей прэсы.

Таму кожны, у кім б'ецца запраўды беларускае сэрца, хто хоча шчыра вызваленьня паняволенага беларускага селяніна і работніка,—павінен неадкладна пасьпяшыць з прысылкай падпіскі на газэту, а таксама вытлумачыць іншым неабходнасьць зрабіць тое самае. Кожны павінен споўніць свой сьвяты абавязак перад Бацькаўшчынай!

В. С—ъ.

## З Радавае Беларусі.

**„Чыстка" беларусаў трывае далей.**

Перасьледаваньне Беларусаў у Радавай Беларусі сыстэматычна паглыбляецца. Яно галоўным чынам накіравана супроць тых беларускіх камуністых, якія па сваей псыхалёгіі ня могуць „думаць па маскоўску" і праяўляць часам свой нацыянальна-беларускі характар. У гэтым маскоўскія камуністы бачаць „нацыянал-дэмакратызм" і „скрыўленьне партыйнае лініі".

Нават сам старшыня цэнтральнага выканаўчага камітэту БССР. А. Чарвякоў папаў у апалу. Ен павінен быў публічна спавядацца перад інквізыцыйным камуністычным трыбуналам, прызнаць свае грахі (правые ўхілы ў бок беларускага нацыянал-дэмакратычнага напрамку), каяцца і прасіць адпушчэньня грахоў (Гл. Сав. Беларусь" № 296 ад 28. XII. 1929 г.). Трэба чакаць адкліканьня яго з Менску і прысылкі на яго мейсца „маскоўскага беларуса".

Пасьля „чысткі" Жылуновіча і Кудзелькі чарга прыйшла да другіх беларускіх пралетарскіх пісьменьнікаў і паэтаў з літэратурных таварыстваў „Узвышша" і „Полымя": Язэпа Пушчы, Лужаніна, Дубоўкі, Пільняка, Антося Адамовіча, Кунцэвіча і інш. Ім закідаюцца тыя-ж самые „праступкі", гэта: „нацыянал-дэмакратызм", „дробна-буржуазная псыхолёгія" і „заступніцтва за кулакоў". Ва ўсім гэтым людзі з скрыўленаю душою бачаць „скрыўленьне бальшавіцкай лініі".

На падрыхтаванай старанна аблаве першы сыгнал падаў „егермэйстар" таварыш Канакотін у „Бальшавіку Беларусі". Вось яго даслоўны артыкул:

„У чытача дэклярацыі і артыкулоў „Узвышша" можа ўзьнікнуць такая думка, што тые, хто пісаў ня добра ведаюць палітграмату, альбо памыліліся ў фармуліроўках; можа інтуіцыя ў іх сапраўды пралетарская і творы сапраўды сугучныя з сучасным запатрабаваньнем? Не, і тут ня добра. І ў мастацкіх творах тое самае. Адзін сьпявае гімны ўсёй зямлі, не зважаючы клясавай дыфэрэнцыяцыі, якая адбываецца ў вёсцы („Зямля" К. Чорны). Другі дагарае „на нязвыклай укомскай пасадзе" („Калі асядае муць"). Трэці ў „беларускай форме" паказвае „лірыка" і „матэматыка" з двухсэнсавымі разважаньнямі пра

кою ў салі суду. Уся публіка была выдалена з салі, апрача двух асоб, выбар якіх быў аддадзены грам. Тарашкевічу. Апошні папрасіў пакінуць у салі суду жонку сваю і жану б. пасла Рака-Міхайлоўскага.

Як інфармуе польская прэса, суд меў зусім неспадзяваны вынік. Як ведама, грам. Тарашкевіча пракуратура пацягнула да адказнасьці за скліканьне мітынгу ў салі „Геліос“ у Вільні ў 1926 годзе, на якім Тарашкевіч быццам-то сказаў „выўротовую“ прамову, за якую мітынг быў сарваны паліцыяй. Тады публіка прабавала зрабіць дэманстрацыйны паход на вуліцы, да якога паліцыя недапусьціла. — Вось-жа абаронца Тарашкевіча прыпомніў суду, што за гэты мітынг Тарашкевіч быў ужо раз суджаны ў віленскім-жа акружным судзе — пры разглядзе ведамае вялізарнае справы „Грамады“ ў 1928 годзе, і тады суд яго ў гэтым пункце апраўдаў.

Суд, праверыўшы заяву абаронцы ў актах справы „Грамады“, новую справу Тарашкевіча „ўможыў“, як ужо разгледжаную. Дзіўна толькі, як гэта тая-ж самая пракуратура, якая ўкладала акт абвіненьня проці „Грамады“, „не дагледзіла таго, што першае яе абвінавачаньне Тарашкевіча ў справе мітынгу ў „Геліосе“ прызнана было ўжо раз судом беспадстаўным...

× **Маніфэстацыі ў Вільні ў дзень суду над Тарашкевічам.** Пасолы Сялянска-Работніцкага Клюбу, Дварчанін і Грэцкі, пробавалі зарганізаваць вулічную маніфэстацыю ў дзень працэсу Тарашкевіча, — аднак, паліцыя да гэтага недапусьціла. Спробы прамаўляць да публікі на вуліцы і на Лукішскім пляцу ўраз-жа зрываліся. Пры гэтым не абыйшлося бяз бойкі, якую польская прэса апісывае, як „водрух таўпы проці выўротовых выступленьняў паслоў“...

× **У Беларускім Музэі ім. Ів. Луцкевіча.** За апошнія месяцы началася ў Музэі жывейшая праца над упарадкаваньнем бясцэнных для беларусаў скарбаў яго. Зроблены пара сталоў са шклом і шкляная шафа—дзеля перахову рэчаў, якіх нельга дзяржаць адкрытымі.

З прычыны таго, што апошні год беларускае прэсы, у якой можна было-б зьмяшчаць музэйныя справаздачы аб паступаючых у яго ахвярах, так як ня было, справаздачы гэтыя непублікаваліся. Надалей яны будуць зьмяшчацца акуратна.

Кіраўніцтва музэю зварачаецца да ўсяго грамадзянства з заклікам прысылаць усялякія гістарычныя памяткі, кнігі, рукапісы, старыя абразы, разьбу з дрэў, тканіны і інш.

Музэй месьціцца пры Вострабрамскай вул. 9 у Вільні. Кіраўнік прымае што-дня ад 11 да 1 г.

× **20-лецьце беларускага тэатру ў Вільні.** 12-га лютага па старому стылю, а 25—па новаму, мінае 20 гадоў ад першае публічнае беларускае тэатральнае пастаноўкі ў Вільні. Выпадала-бы беларускаму грамадзянству неяк адзначыць гэты наш культурны юбілей, — хаця-бы пастаноўкай добрае беларускае новае п'есы.

× **Спэктакль-вечарына.** У нядзелю, 2-га лютага б. г. ў салі Віл. Бел. Гімназіі (Вострабрамская 9) адбудзецца спэктакль-канцэрт пад кіраўніцтвам і з удзелам вядомага на беларускай сцэне артыста А. Міхалевіча. Пасьля спэктаклю — скокі. Пачатак пунктуальна а 7 гадзіне ўвечары. Увесь збор пойдзе на карысьць незаможных вучняў гімназіі. Уваход па білетам, якія можна набыць пры ўваходзе.

# Карэспандэнцыі.

**Як спаткала новы 1930 год моладзь у в. Курымшычах Маладэчанскай гміны і павету.**

Дзякуючы стараннай працы сябры Сідарэвіча Янкі і Раманчыка Мацея з в. Вывяр, Маладэчынскай гм. у в. Курымшычах 1-га студзеня на Новы Год (14-га па новаму стылю) наладзілі спэктакль-вечарыну. У сувязі з тым, што ніякае арганізацыі ў нас няма — (Т-ва Беларускага Гаспадарчага Зьвязу ў в. Курымшычах не зацьверджана), дазваленьне на спэктакль і адказнасьць за яго ўзяў на сябе грам. Янка Сідарэвіч, малады сьвядомы беларус. Спэктакль адбыўся вельмі добра. Народу было паўнюсенькая хата; нават усе не маглі зьмясьціцца, дык з болем у сэрцы, прыходзілася адмаўляць у мейсцы тым, хто прыйшоў пазьней. Гулялі „Зьбянтэжаны Саўка“, „Пасланец“ і „Заручыны Паўлінкі“. Ня гледзячы на тое, што паважаныя грамадзянкі артысткі былі першы раз на сцэне, але ў сваей роднай мове адыгралі так добра ўсе рэчы, што ніколі аб гэтым і не сасьніцца польскаму эндэку, каторы відзіць сваімі „курынымі вачыма“ ўва ўсіх беларусах нейкую мешаніну“.

Вельмі прыгожа і жыцьцёва адыгралі свае ролі: Марыля Пшэньнік, Ніна Пшэньнік і Альжбета Пшэньнік. Ня горай ад іх адзначыліся: Раманчык Мацей (Саўка) і Сідарэвіч Янка (Якім). Ня можна не адмеціць Цыбульскага Мікалая, каторы сваёй тэхнічнай дапамогай шмат памог гэтай вечарыне-спэктаклю.

Заахвоціўшыся першай увагай, нашыя маладыя артысткі і артысты пастанавілі на наступную нядзелю адыграць новыя беларускія п'ескі ў в.



Вялікім Сяле, каля Маладэчна, у хаце № 101 Бондара Сымона.

Гэты першы прыклад маладых беларусаў з в. Курымшычы і Вывяры каля Маладэчна хай паслужыць прыкладам для ўсяе сьвядомае беларускае моладзі як можна, як кажуць „саматугамі“, бяз жаднае помачы і нават сталае арганізацыі наладзіць у сваей вёсцы спэктакль-вечарыну, абы было колькі чалавек сьвядомых беларусаў. Трэба толькі вывучыць якую-небудзь белурускую п'еску і адзін з сяброў падасьць паданьня да Старасты, у якім зазнача, што будзе адбывацца вечарына „domowa“ па запросінах, на якую павінен усягды даць дазвол староста. Атрымаўшы дазвол, зрабеце вольны ўход (бясплатны), а сабраўшымся сябром прапануйце па падпісным лісьце ахвяраваць, колькі хто можа, на бібліятэку ці на якую-небудзь культурна-асьветную мэту.

Хай гэты прыклад моладзі у в. Курымшычах на новы год, будзе зьвястуном таго, што сялянская моладзь пачынае сама творчую культурна-асьветную працу, так, як патрапляе гараць сваю родную беларускую зямельку, і калі дагэтуль у некаторых кутках нашае бацькаўшчыны ёсьць шмат несьвядомай моладзі, якая аддаецца налогу п'янства ды бойкам, дык гэта не вінавата моладзь а віны тыя абставінны, і тая праклятая гарэліца каторая, як атрута, разстаўлена ў кожным кутку мястэчка. Калі мы наладзім у кожнай вёсцы хоць адзін спэктакль-вечарыну, дык, лічучы, колькі мільёнаў нас ёсьць і колькі ёсьць нашых беларускіх шэрых вёсак, мы ўсьвядомім усіх несьвядомых, і аб нас ня толькі загамоняць і будуць лічыцца з намі нашы суседзі, але загавораць з пашанай шмат далей—за граніцамі нашае бацькаўшчыны.

Дык уперад, браты! Мы—кавалі нашае будучыні, і ў нашых мазольных руках не загіне ніякая праца!

Наперад, наперад, браты маладыя!
Хай сьцяг беларускі агорне
Усіх сьмелых, адважных, і буры ліхія
Ніколі не згасяць паходні!
Глядзеце з пагардай на чорныя хмары,
Што йдуць на загоны з Заходу,
На сівер сярдзіты, што дзьме прагавіты
На родныя стрэхі з Усходу.
Лічыцца ўсіх змусім мы працай сьвядомай
Хто з намі ня хоча лічыцца:
Хай знаюць, што нашы мазольныя рукі
Памогуць народу збудзіцца:
Мы кінем атруту, каторай спаіўшы
Нас хочуць трымаць у цямноце!
Хай кожны то знае: кайданы ня зьбіўшы,
Ня скажам: „Ты вольны, Народзе!!!
Эндэкі трухтлявы з сьляпымі вачыма,
Мы сіла магутна, а не „мешаніна“!
Вы пэўне ня сьнілі, што ў нашых мільёнах
Есьць Колас, Купала, Скарына!

**Вясковы Міхась.**

### Нашы заработні.

(м. Юрацішкі).

Цяжкое жыцьцё нашага селяніна: няма чым плаціць падаткаў. У некаторых малазямельных няма ўжо і хлеба, а залеглыя падаткі ўсё-ж плаці! Дзякуй Богу, адкрыліся заработкі вазіць мэтры на ст. Юрацішкі; але-ж дарога сьлізкая, сьнегу няма, трэ' вазіць на колах, і вось у першыя дні дзеля самых бедных вышлі не заробкі, а праробкі. У беднага гаспадара колы ледзь-ледзь жылі і на пачатак заробку заўсім рассыпаліся. Пры сьлізгаце коні ня могуць другі раз утрымацца і зваляцца; то не бяда, калі ўпадзе гдзе ў дарозе, гдзе ніхто ня відзіць, а калі ўпаў конь у Юрацішках, дык адразу пратакол ды і кажуць, што будзе штраф аж 25 злот! Вось тут і жыві, вось тут і зарабі! „Тутэйшы“.

**Грамадзяне,**

калі хочаце, каб ваша газэта выходзіла акуратна —

**прысылайце падпісныя грошы!**

# Беларусы ў Чэхаславаччыне.

**Сьвяткаваньне дзесятых Угодкаў сьмерці Івана Луцкевіча ў Празе Чэскай.**

Дня 5 студзеня б. г. стараньнямі Беларускай Рады ў Празе было наладжана сьвяткаваньне дзесятых угодкаў сьмерці Івана Луцкевіча, пры чысьленым удзеле ўсей беларускай пражскай калёніі і дэлегатаў з Вільні на Зьезд „АБСА“.

Сьвяткаваньне распачаў уступным словам гр. Захарка, які падкрэсьліваючы вялікія заслугі Івана Луцкевіча, паложаныя для лепшай будучыні беларускага народу, кінуў пасярод прысутных гарачы і шчыры прызыў ісьці, нягледзячы ня ўсякія перашкоды, ісьці наперад сьлядамі Івана Луцкевіча, маючы перад сабой адзіны сьвяты ідэал—Беларусь.

Пасьля гэтага наступіў даўгі і глыбака апрацаваны рэфэрат Д-ра Т. Грыба аб Івану Луцкевічу. Прэлегэнт, акінуўшы крытычным вокам першыя пачаткі беларускага адраджэньня, з глыбака навуковым падыходам сконстатаваў, што выступленьне Івана Луцкевіча на беларускай адраджэнскай ніве запачаткавала сабой новую эру ў беларускім руху, эру сьвядомага і ўсестароньняга будаўніцтва свайго ўласнага дзяржаўнага быту.

Пасьля рэфэрату Д-ра Грыба прысутны на сьвяткаваньні гр. А. Бартуль, на просьбу прысутных, прачытаў некаторыя з сваіх твораў, аб вартасьці якіх сьведчылі бурныя воплескі і высокае захапленьне ўсіх прысутных.

Наагул настрой на сьвяткаваньні быў вельмі ўрачысты, не пазбаўлены такжа тэй глыбокай тугі за Бацькаўшчынай і ўсім сваім родным, якую можам бачыць толькі ў людзей, адлучаных ад краю.

**Прысутны.**

**Аб Агульным Сходзе Т-ва Беларуская Рада ў Празе.**

30 сьнежня 1929 г. адбыўся Агульны Сход Т-ва Беларуская Рада ў Празе. Старшынёю Рады быў выбраны грам. Мікола Вяршынін, віцэ-старшынёю Фр. Грышкевіч, скарбнікам і сэкрэтаром Ал. Вітушка і кандыдатам у прэзыдыум Ігн. Сланеўскі. У рэвізійную камісію: Т. Клаўсуць, В. Лаўскі і Л. Гірыс.

# Усячына.

Апошнімі часамі сярод многіх вучоных астраномаў узьнімаецца перакананьне, што хуткасьць кружэньня зямлі зьмяншаецца, ды што гэта можа мець у выніку—ў далёкай будучыне—на аднэй паўкулі вечны дзень, а на другой паўкулі—вечную ноч. Ангелец Эрнэст Браўн на падставе сваіх досьледаў нават паказвае лічбу, з якой памяншаецца кружэньне зямлі. З 1870 году даўжыня дня павялічылася на 15 сэкундаў. Наагул-жа зямля ў пачатку свае геолёгічнае эры круцілася значна хутчэй.

Таксама заўважвае француз дэ Брай, што й хуткасьць сьвятла сонечнага значна памяншаецца й быццам праз 80.000 гадоў настане вечная цемра.

Істнуе цэлы шэраг іншых досьледаў і гіпотэзаў (дагадак) аб набліжэньні катастрофы нашае плянэты, аднак гэтае прароцтва быццам споўніцца не раней, як праз якіх-небудзь 300 тысячаў гадоў, а то й яшчэ пазьней.

Ведама, лічба некалькі сотняў тысячаў гадоў для нас вялікая, бо наагул нават людзкая культура істнуе ўсяго максымум 20 тысячаў гадоў. Але, калі прыняць пад увагу тое, што чалавек жыве на зямной кулі толькі з паўмільёна гадоў, дык можна з пэўнасьцю думаць, што людзтва з плянэтай перажывае ўжо дарослы век, за якім павінна наступіць немінучая старасьць і сьмерць. **М. І.**

* * *

Недалёка Станіславава ў Галіччыне нядаўна быў знойдзены, падчас раскопваньня, добра захаваны перадпатопных часоў зьвер (Rhinoceros antiquitatis). Каштоўная знаходка была адпраўлена ў Кракаўскую акадэмію навук.

# Паштовая скрынка.

**„Ацэнцы“ ў Мялешках.** Вы просіце надрукаваць вашу раду чытачом „Белар. Крыніцы“:

„Крыніцы“ гэты
Ты пусьці да іншай мэты:
Усянюсенькі „Крыніцы“
Пашчапляй ты іх на ніці
І—каб ня сеялі нязгоду
Паміж працоўнага народу—
Усе гэтакі газэты
Занясі дзе да кл....

На-жаль, далейшыя радкі „нецэнзурныя“, і затым зьмясьціць іх ня можам.

**Ад наступных асоб атрымалі:** ад Сідаровіча Кастуся—2 зл., Александровіча Язэпа—1 зл. 50 гр., Андрэяўскага Антона—2 зл., Салаў'я Янкі—2 зл., Вінічэка Лявона—3 зл. 50 гр., Мацьвеява Грыгора—3 зл. 50 гр., Горпініка Ігната—3 зл. 50 гр., Мігулевіча Барыса—3 зл. 50 гр., Грынчука Аўтуха—3 зл., Грабоўскага М.—3 зл. 50 гр.

(Працяг у наступным нумары).

Рэдактар-Выдавец: **М. Сіняўскі.**

Друкарня Я. ЛЕВІНА Вільня, Нямецкая 22.